**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

*Са светлым святам Божага Нараджэння!*

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года
№51 (611) 22 снежня 2011 года
Кошт свабодны.

Мёрскі раён

# Доўгабуд – гэта па нашаму?

■ Чэслаў Якубовіч

**Чамусьці ў нашай краіне адны лядовыя палацы сталі апошнім часам прырытэтам для будаўнікоў, а для іншых аб'ектаў лёс бывае іншым.**

Вось і ў Мёрах, сапраўды, помнікам безгаспадарчасці стаў недабудаваны будынак цэнтральнай раённай бальніцы. Яго рашылі ўзвесці яшчэ за савецкім часам, але ўжо два дзесяцігоддзі мінула, як развалiўся СССР, а справа да канца так і не даведзена. Корпус пабудаваных некалькіх паверхаў клінікі стаяў доўга і разбураўся пад уздзеяннем дажджоў і маразоў. Сёлета прыйшлося зноў траціць сродкі і правесці абнаўленне праектна-каштарыснай дакументацыі. Спецыялісты зрабілі новы архітэктурны праект бальніцы, з улікам ужо ўзведзенага і не знішчанага часам дапрацоўваецца і новы будаўнічы праект ЦРБ. Адзінае, што трывожыць, гэты патрэбны насельніцтву края аб'ект мяркуецца будаваць за кошт сродкаў абласнога бюджэта і практычна зноў з нуля. У суседнім райцэнтры Шаркоўшчына падобныя праблемы. Праўда на гэты доўгабуд на фінансаванне завяршэння будаўніцтва тут райбальніцы сродкі пойдуць з бюджэту краіны. Ды і ягоная гатоўнасць значна больш высокая, чым у суседзяў. Акрамя таго кіраўніцтва Віцебскай вобласці вырашыла давесці да сучасных стандартаў каля ста розных аб'ектаў аховы здароўя, а доўгачаканыя бальніцы ў Мёрах і Шаркоўшчыне лічацца сярод прыярытэтных. Ёсць шанец, што хаця б у адным з іх гэту справу давядуць да заканчэння ў будучым годзе.



Пастаўскі раён

# Не ратуюць і запоры

■ Кастусь Александровіч

**У гэты перыяд года светлавы дзень стаў зусім кароткім, а пад прыкрыццём цемры заўсёды было лягчэй рабіць дрэнныя ўчынкі.**

Таму і ў Пастаўскім раёне напярэдадні калядных свят прыйшлося на працягу тыдня распачаць яшчэ 5 крымінальных спраў па фактах розных крадзяжоў маёмасці грамадзян. Характэрна, што на фінішы годы ў рэгіёне сутыкнуліся з новай тэндэнцыяй: сталі мярзотнікі рэгулярна "чысціць" гаражы. Адзін з мярзотнікаў навогул "вызначыўся". Злодзей забраўся ў салон легкавога аўтамабіля, забраў адтуль 20 тысяч рублёў, а потым з незразумелых меркаванняў узяў і спаліў машыну. Ужо не ратуюць людзей і надзейныя замкі і запоры на дзвярах іх гаражоў. Вось і ў адну з начэй у адзін з боксаў гаражнага кааператыва ў райцэнтры забраўся злодзей. Аўто ён, праўда, не чапаў, але забраў з сабой нямецкую бензапілу, вялікі набор ключоў і нават шрубакрут. Праз тыдзень у райаддзел міліцыі звярнуўся яшчэ адзін пастаўчанін, у якога з гаража ля ўласнага дома таксама ўкралі бензапілу "Штыль" і іншых каштоўных рэчаў на агульную суму 6,5 млн. рублёў. Затым падобныя "спецыялісты" перабраліся з горада ў сельскую мясцовасць. У цэнтры знакамітай гаспадаркі, аграгарадку Навасёлкі яны абакралі яшчэ два прыватныя гаражы. Праўда, там злачынцы пажывіліся на меншую суму, але настрой вяскоўцам сапсавалі. Здараецца, што злодзеі крадуць дзёрзка і пасярод белага дня. Так дзейнічаў 22-гадовы і ўжо судзімы гараджанін, які забраў з прылаўка 2 бутэлькі віна і ўцёк. Яго неўзабаве знайшлі і зноў ён адправіцца хутка за краты.

Докшыцкі раён

# Жыве тэатр у глыбінцы

■ Станіслаў Раманчук

**Далёка за межамі Бярэзінскага краю вядомы народны тэатр з райцэнтра Докшыцы.**

Ягоныя лепшыя пастаноўкі ў мінулым запісваліся і гучалі нават па Беларускаму радыё, што робіць гонар і прафесійным калектывам. Тэатральная група адсюль акрамя таго неаднаразова станавілася лаўрэатамі розных аглядаў і конкурсаў самадзейнай творчасці. Вядомасці тэатру і папулярнасці сярод гледачоў садзейнічаюць арыентацыя на цікавыя спектаклі, адданасць творчасці вядучых выканаўцаў. Гэта напярэдадні года пацвердзіла чарговая прэм'ерная пастаноўка, на якой у райцэнтры глядзельная зала мясцовага цэнтра культуры была бітком забітая людзьмі. Для новага твору артысты падрыхтавалі спектакль "Млын" па п'есе вядучага беларускага драматурга Аляксея Дударава. Працу над ёй разам з калегамі завяршыла рэжысёр народнага тэатра з Докшыц Ганна Яцкоўская. Вядучыя артысты і настаўнікі па сумяшчальніцтву Ірына Кірыенка і Віктар Стадольнік разам з юрысконсультам Святланай Шышло выканалі ў гэтай пастаноўцы галоўныя ролі.

Узнагародай трупе акрамя дружных апладысментаў сталі і кветкі для сваіх любімых прыхільнікаў тэатра. Па існуючай у раёне традыцыі ў бліжэйшы час з гэтай пастаноўкай змогуць пазнаёміцца і жыхары іншых буйных населеных пунктаў Докшыцкага раёна, куды народны тэатр вывозіць свае работы.

# Лічба нумара

**27** – столькі таварных груп, у адпаведнасці з пастановай урада Беларусі, у пачатку снежня ўвайшлі ў новы пералік сацыяльна-значных тавараў і паслуг, цэны на якія зноў рэгулююцца дзяржавай. Перад гэтым беларускі лідар публічна загадаў спыніць "шалёнае цэнаўтварэнне" на фоне таго, што ў папярэднім, заключным месяцы восені лістападаўская інфляцыя спынілася на адзнацы 8,1%. Адыходзячы год стане адным з самых сумных у навейшай айчыннай гісторыі, паколькі за 11 месяцаў 2011 года рост цэн склаў ужо 104 %.

Дарэчы, сёлета беларусы сталі намнога бяднейшымі, сярэдняя зарплата з намінальных 500 долараў скарацілася ў 2 разы, да 250 USD. І яшчэ паспрабуй атрымаць такую суму ў глыбінцы, дзе яна значна больш бяднейшая за сталіцу. Жыхароў краіны моцна падкасіла рэкордная дэвальвацыя нацыянальнай валюты ў 2,8 разы. Добра, калі ў рэгіёнах работнікі атрымліваюць долараў 200, а вось у суседняй Расіі заробкі намнога большыя, у межах 800 USD. І таму самыя смелыя і адчайныя суайчыннікі пачалі масава цэлымі брыгадамі з'язджаць на працу на расійскія прасторы.

Сапраўды, сумна, што па заробках сёння беларусы – апошнія ў Еўропе, нас ужо істотна апярэджваюць нават малдаване, не кажучы ўжо пра ўкраінцаў. Аднак апошнім часам кіраўніцтва краіны яўна павесялела, паколькі нам зноў прыйшлі вялікія грошы пасля продажу свайго газапravода "Газпраму" і выдзялення чарговага траншу крэдыта ЕўрАзЭС. У гэтай сітуацыі можна адмовіцца ад заяўленай палітыкі лібералізацыі і вярнуцца да любімай рэгуліроўкі цэн. У кошык сацыяльна значных цэн вярнулі вараныя каўбасы, рыбу і нават соль, чай, каву.

Цяпер будуць кантраляваца не толькі Мінэканомікай, але і ў абласцях, сталічным гарвыканкаме цэны на мыла і шкарпэтка-панчошныя вырабы, тарыфы на рамонт абутку. Насельніцтва, канешне, парадавала, што з падаражэннем праезду ў грамадскім транспарце ў снежні вырашылі пачакаць і кошт квіткоў замарозіць. Адзінае, што цэны на паліва ў пачатку каляндарнай зімы павялічыліся адразу на 10 %. Тым часам з улікам даручэнняў кіраўніка РБ ва ўрадзе падрыхтавалі новы варыянт прагноза сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на будучы год.

У ім ужо фігуруе новая лічба росту ВУП 5,2-5,5 % (першапачаткова разлічвалі на прырост 1,5 %). Смела абяцаюць нам, што сальда знешняга гандлю ў 2012 годзе будзе нарэшце станоўчым і складзе амаль 1,5 млрд. долараў. Аднак для гэтага спецыялісты падкрэсліваюць, што тавараў і паслуг сваіх беларусы павінны экспарціраваць на 11-12 % болей, чым сёлета. Беларускую эканоміку ўжо прызналі ў Еўропе гіперінфляцыйнай і, каб забяспечыць эканамічны рост, ніяк не абысціся ў наступным годзе без росту цэн на ўзроўні 19-22%.

Пры ўмове правядзення дастаткова жорсткай грашова-крэдытнай палітыкі краіне рэальна ўтрымаць курс беларускай валюты ў межах 9-10 тысяч рублёў. Гэта, дарэчы, ужо пацвердзілі і ў Нацбанку і новы яго старшыня Надзея Ермакова агучыла лічбу 9150 руб.за 1USD. Адзінае, што год назад пра стабільнасць нацвалюты рабіў смелыя прагнозы і яе папярэднік Пётр Пракаповіч. Зрэшты, на айчынным валютным рынку пасля перыяду панікі і крызісу назіраецца спакойная абстаноўка: насельніцтва за 3 месяцы прадала банкам у абменніках 640 млн. долараў і купіла разам з фірмамі больш паўмільярда USD.

Увогуле ёсць аб'ектыўныя падставы для аптымізму, паколькі зменшыцца цана на газ. Для нас цяжкасці могуць наступіць, калі пагоршыцца з-за крызісу эканамічная сітуацыя ў ЕС, а таксама магчымыя цяжкасці ў беларускіх экспарцёраў у сувязі з уступленнем Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Беларуская прадукцыя можа быць выцеснена з асноўнага свайго расійскага рынку з-за чакаемага рэзкага прытоку ў РФ замежных інвестыцый і больш канкурэнтных тавараў.

А гэта азначае, што і нашай краіне прыйдзецца актывізаваць сваю дзейнасць па далучэнню да СГА. У гэтай арганізацыі беларуская заяўка на членства знаходзіцца з 1993 года. З 10 краінамі СГА, сярод якіх Індыя і Кітай, беларусы ўжо ўзгаднілі пытанні адкрытасці свайго рынку і ўмовы ўзаемнага гандлю.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 22.12.11 | | | | Пятніца 23.12.11 | | | | Субота 24.12.11 | | | | Нядзеля 25.12.11 | | | | Пнд. 26.12.11 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | -1 | -1 | -2 | -2 | -1 | -4 | -4 | -4 | -2 | -1 | +1 | +1 | +1 | -2 | +1 | +2 | +3 |
| Ціск | 745 | 746 | 748 | 750 | 751 | 752 | 751 | 750 | 748 | 745 | 744 | 744 | 746 | 749 | 753 | 755 | 756 | 756 | 755 |
| Вільготнасць | 90 | 91 | 85 | 91 | 87 | 90 | 85 | 86 | 86 | 80 | 88 | 96 | 94 | 92 | 88 | 94 | 95 | 96 | 97 |
| Вецер м/сек | С-З 4 | С-З 5 | С-З 5 | С-З 5 | С-З 4 | С-З 3 | З 3 | Ю-З 3 | Ю 5 | Ю 6 | Ю 6 | Ю-З 6 | З 4 | З 5 | С-З 5 | З 4 | Ю-З 4 | З 6 | З 6 |
| | | 09:33 | 16:42 | | | 09:33 | 16:42 | | | 09:34 | 16:43 | | | 09:34 | 16:44 | | 09:34 | 16:44 | |
| | | 06:48 | 14:38 | | | 08:04 | 15:30 | | | 09:05 | 16:35 | | | 09:52 | 17:51 | | 10:26 | 19:11 | |

Дзень за днём

**Насуперак чаканням улад Беларусі МВФ не будзе сёлета пачынаць перамовы з РБ аб выдзяленні нашай краіне новых крэдытаў. Беларускі ўрад вызначыўся, каб з 2012 года не было ў краіне зарплаты меней 1 млн. рублёў, аднак прапарцыянальна такога росту, верагодна, будуць расці і цэны, многім жыхарам прыйдзецца зацягнуць паясы і жыць эканомней, чым раней. Беларусь таксама скароціць субсідыі на сваю сельскую гаспадарку да 10 % ад валавай вытворчасці АПК. Нашы вучоныя атрымалі магчымасць станавіцца адразу дактарамі навук без кандыдацкай ступені пры з'яўленні высокіх навуковых дасягненняў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Канцлер Ангела Меркель папярэдзіла, што пасля саміта ЕС у Брусселі па выхаду еўразоны з крызісу не трэба чакаць хуткага вырашэння існуючых праблем.

**Расія.** Правячая партыя "Адзіная Расія" на парламенцкіх выбарах страціла значную колькасць месц у новай Дзярждуме РФ, яны вымушана стварыць кааліцыю для праўлення.

**Бельгія.** Еўракамісар Штэфан Фюле пацвердзіў, што ЕС не будзе прымяняць эканамічныя санкцыі супраць Беларусі, а пашырыць візавыя, пакуль там парушаюцца правы людзей.

**Літва.** Дзяржсакратар ЗША Хілары Клінтан у прамове на XVIII сесіі Савета міністраў АБСЕ ў Вільнюсе абвінаваціла зноў Беларусь у новых парушэннях правоў чалавека.

**Харватыя.** Жыхароў краіны парадавала рашэнне Еўрапарламента прыняць харватаў у ЕС з 1 студзеня 2013 года, яна стане 28-й дзяржавай-членам еўрапейскай сям'і народаў.

**Францыя.** Савет Еўропы заклікаў беларускія ўлады не караць смерцю Канавалава і Кавалёва, Беларусь – адзіная краіна кантынента, дзе так па варварску караюць людзей.

**Егіпет.** У 1-м туры парламенцкіх выбараў, як і ў Тунісе, перамаглі "Браты-мусульмане" з Партыі Свабоды, якія імкнуцца прыстасаваць нормы шарыяту да сучаснага свету.

**Паўднёвая Асецыя.** Пад ціскам Крамля марыянетачныя карумпаваныя ўлады адмянілі вынікі прэзідэнтцкіх выбараў, абураны гэтым народ выйшаў на вуліцы сталіцы Цхінвалі.

**Італія.** Новы прэм'ер-міністр краіны Марыо Монці адмовіўся ад зарплаты, каб апраўдаць намечаныя жорсткія меры па скарачэнню дзярждоўгу, павелічэнне пенсійнага ўзросту.

**Расія.** Пасол РФ А. Сурыкаў заявіў, што крызіс у Беларусі вызвала рашэнне аб павышэнні заробкаў перад выбарамі, сёлета расійская падтрымка беларусам складзе амаль 4 млрд. $.

**Японія.** На аўтатрасе паміж прэфектурай Хірасіма і рэгёнам Кюсю адбылася адна з самых "дарагіх" аварый у свеце: на слізкім участку сутнуліся адразу 14 дарагіх супермашын.

**Латвія.** Урад краіны канчаткова адмяніў смяротнае пакаранне, набыў асноўны закладзены пакет акцый і нацыяналізаваў сваю айчынную авіякампанію AirBaltic.

**Літва.** Літоўскі ўрад пасля нацыяналізацыі банка-банкрута Shoras паабяцаў расплаціцца з усімі яго ўкладчыкамі на працягу 5 бліжэйшых гадоў і вярнуць людзям 4, 1 млрд. літаў.

**Таджыкістан.** У выніку падзення будаўнічага крана застаўся без электрычнасці Палац таджыкскага прэзідэнта, у краіне зімой электраэнергію падаюць па некалькі гадзін у суткі.

**Японія.** Трэці па велічыні аўтакацэрн краіны Honda з-за дэфектаў падушак бяспекі адклікаў 304 тысячы сваіх легкавых аўтамабіляў 2001-2002 гадоў выпуску па ўсім свеце.

# Падатак на прыбытак з 2012 года будзе зніжаны з 24% да 18%



■ БелаПАН

**Падатак на прыбытак з 2012 года будзе зніжаны з 24% да 18%, заявіў міністр фінансаў Андрэй Харкавец, які прадстаўляў 16 снежня ў Палаце прадстаўнікоў праекты законаў аб унясенні паправак у Падатковы кодэкс і «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2012 год».**

«Асноўныя намаганні па далейшым зніжэнні падатковай нагрузкі на эканоміку засяроджаны ў дачыненні да галоўнай інвестыцыйнай крыніцы — прыбытку прадпрыемстваў. Прапануеўваецца знізіць стаўку падатку на прыбытак з 24% да 18%», — сказаў Харкавец.

Пры гэтым ён звярнуў увагу на тое, што «гэта будзе самая нізкая стаўка ў Мытным саюзе (у Расіі і Казахстане стаўка падатку на прыбытак складае 20%) і адна з самых нізкіх сярод нашых заходніх суседзяў». Харкавец падкрэсліў, што, паводле ацэнкі экспертаў, гэта станоўча паўплывае на рашэнні інвестараў пра вядзенне бізнесу ў Беларусі.

Адначасова плануецца змяніць падыходы да падатковага льгатавання прыбытку, замяніўшы іх агульнапрынятымі і зразумелымі замежным інвестарам механізмамі стымулявання інвестыцый, паведаміў міністр.

Ён падкрэсліў, што сукупнасць такіх рашэнняў забяспечыць зніжэнне падатковай нагрузкі на эканоміку ў памеры 0,4% ВУП, ці прыкладна 2 трлн. рублёў. «Гэта стварае дадатковыя станоўчыя эфекты ў выглядзе хуткага вяртання інвестыцыйных затрат, стымулявання доўгатэрміновых капітальных укладанняў у вытворчыя актывы, паляпшаючы ўмовы для адкрыцця бізнесу ў Беларусі», — заявіў Харкавец. Паводле яго слоў, гэта дазволіць таксама павялічыць канкурэнтаздольнасць беларускага экспарту ў Мытным саюзе.

У наступным годзе мяркуецца паменшыць падатковую нагрузку на малы і сярэдні бізнес. Будуць зніжаны на 1% стандартныя стаўкі падатку пры спрошчанай сістэме падаткаабкладання: з 8% да 7% без выплаты ПДК і з 6% да 5% — з выплатай ПДК.

Плануецца вызваліць арганізацыі ад падатку на прыбытак, які атрыманы ад рэалізацыі інавацыйнай прадукцыі ўласнай вытворчасці і высокатэхналагічных тавараў, калі доля такога прыбытку складае больш за 50%.

Наваўвядзеннем таксама стане прадастаўленне плацельшчыкам права змяняць на працягу падатковага перыяду выбраны метад выплаты падатку на прыбытак.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Гомель.** За абразу таксіста суд Савецкага раёна на закрытым пасяджэнні аштрафаваў на 350 тыс. руб. А. Аляксандрава начальніка службы бяспекі аблкамітэта Дзяржкантролю.

**Івацэвічы.** А. Лукашэнка паставіў задачу, каб у 2012 годзе кожная з 1300 гаспадарак краіны рэканструявала за свае сродкі адну ферму пад сучасныя тэхналогіі вытворчасці.

**Мінск.** Беларускі касцёл на сваім сайце заступіўся за асуджаных на смерць, бо такая кара не можа быць кампенсацыяй за ўчыненае зло і не зніжае ніяк рост злачыннасці ў краіне.

**Пружаны.** Пасля другой па ліку за 1,5 месяца катастрофы ваеннага верталёта Мі-24 пры заходзе на пасадку ў туман прыпынілі часова палёты авіяцыі Узброеных сіл Беларусі.

**Мінск.** Генпракуратура РБ завяла крымінальную справу супраць аднаго з буйнейшых бізнесменаў краіны В. Шаўцова, яго фірма "Белзамежбуд" рэалізуе праекты ў Венесуэле.

**Вілейка.** Пасля ананімнага званка міліцэйскі спецназ у вёсцы Астравы выявіў буйны самагонны міні-завод, ён займаў цэлы дом, працавалі трое беспрацоўных жыхароў.

**Мінск.** На тэрыторыі Беларусі па меркаваннях цэнзуры не паказалі рэпартажы расійскіх Першага канала (праграма "Время") і НТБ аб прысудах па справе тэракту ў метро.

**Астравец.** Па льготным крэдыце на будаўніцтва тут айчыннай АЭС Беларусь павінна будзе плаціць Расіі першыя 5 гадоў па банкаўскай стаўцы больш 5 %, далей – болей.

**Мінск.** У пачатку снежня, як паведаміў міністр спорту і турызму Алег Качан, беларусы завяваалі ўжо 100 алімпійскіх ліцэнзій для ўдзелу ў Гульнях у Лондане ( у 2007 было 96).

**Ашмяны.** Па прыгавору суда 17-гадовы вясковец атрымаў 4 гады турмы за тое, што летам на падпітку згвалціў ноччу ў хаце 77-гадовую пенсіянерку, якой раней насіў таблеткі.

**Мінск.** Напярэдадні каляндных і навагодніх свят толькі ў сталіцы пройдзе больш 2,5 тысяч гандлёвых акцый-распрадаж, ЦУМ пачаў прадаваць швейныя вырабы са зніжкай 55 %.

**Гродна.** Аператар Yota разгарнуў у горадзе 9 базавых станцый і пачаў тэставанне сеткі высокахуткаснага Інтэрнэта 4G з хуткасцю перадачы дадзеных да 40 Мбіт/секунда.

**Мінск.** Калі жонка расшыла сысці да іншага мужчыны, 36-гадовы намеснік гендырэктара Дома друку забіў яе і застрэліўся сам, у іх засталася 12-гадовая дзіця.

**Магілёў.** На прайшоўшым дзіцячым песенным "Еўрабачанні-2011" многім запомнілася 13-гадовая школьніца Ліда Заблоцкая, якая заняла 3-е месца, аб якім дзяўчынка марыла.

**Мінск.** Да працы са славутым ФК "Дынама" (Мінск) прыступіў 25-ты па ліку з пачатку стагоддзя новы галоўны трэнер Аляксандр Сяднёў, гэта сапраўдны сусветны антырэкорд.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Віцебск.** Маці асуджанага да растрэлу за саўдзел у тэрарызме Уладзіслава Кавалёва напісала прашэнне аб памілаванні на імя А. Лукашэнкі, справу лічыць сфабрыкаванай.

**Полацк.** Горад упершыню ўдзельнічаў у Брусселі ў штогадовай цырымоніі Пакта мэраў, больш тысячы ўдзельнікаў еўрапейскай ініцыятывы па энергазберажэнню і экалогіі.

**Віцебск.** Па рэкорднай сёлета цане 5,5 млрд. рублёў тут на аўкцыёне прадалі комплекс збудаванняў ААТ "Наваполацкжалезабетон" у Полацкім раёне, было 7 прэтэндэнтаў.

**Полацк.** Завод "Тэхналіт-Полацк" адправіў заказчыкам у Расіі асноўную частку помніка пад Смаленскам героям вайны 1812 года, манумент мае вагу 120 тон і вышыню 24 метры.

**Паставы.** Рэкордны ў сваёй гісторыі ўлоў 1445 тон рыбы – карпа, амура, афрыканскага сама, таўсталобіка атрымаў мясцовы рыбгас "Навінкі", яе рэалізацыя будзе да канца года.

**Глыбокае**. У райцэнтры адкрылі доўгачаканую ўнікальную танцавальную залу коштам каля 3 млрд. рублёў, тут выдатныя ўмовы для працы спецыялістаў і самадзейных артыстаў

**Відзы.** Да радасці жыхароў гарпасёлка іх уключылі ў спіс прыгранічнага насельніцтва з правам наведвання па спрошчанай схеме і Латвію пасля 1-га лютага 2012 года.

**Новалукомль.** У мясцовай райбальніцы пачалі рабіць на сучасным абсталяванні планавыя лапараскапічныя аперацыі пры падтрымцы вопытных хірургаў з абласнога цэнтра.

**Орша.** Супраць двух студэнтаў распачалі крымінальную справу, іх затрымалі ноччу на іншамарцы пасля абрабавання на 7 млн. рублёў вясковай крамы ў Шклоўскім раёне.

**Лёзна.** Угонаруражэнкі раёна прафесара Ефрасінні Бондаравай у сталічным Інстытуце журналістыкі БДУ адкрылі 3-ю імянную аўдыторыю памяці гэтай выдатнай выкладчыцы.

**Браслаў.** У райцэнтры прайшоў з вялікім поспехам VI маладзёжны конкурс авангарднай моды "Марэнга-2011", ён нагадвае сусветны праект "Подзіум", але прыдуманы раней.

**Ушачы.** На працягу сутак у вёсках раёна загінулі на пажарах з-за курэння каля сваіх ложкаў два пенсіянеры, адзін з іх толькі што вярнуўся дамоў з месцаў пазбаўлення волі.

**Полацк.** Фотаработы манахіні Сергіі са Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра склалі аснову выставы ў Рызе да 850-годдзя беларускай святыні – крыжа Еўфрасінні Полацкай.

**Ушачы.** Міліцыя затрымала 3-х беспрацоўных хлопцаў з Чашніцкага раёна ва ўзросце 23-27 гадоў, яны скралі 38 пліт з імёнамі загінуўшых партызан з мемарыялу "Прарыў".

**Віцебск.** Футбол вобласці яўна дэградзіруе: ФК "Віцебск" пакінуў вышэйшую лігу, яшчэ дзве каманды ФК "Полацк" (1-я ліга) і ФК "Орша" (2-я ліга) могуць увогуле распасціся.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Апостальскі Нунцый наведаў Віцебскую дыяцэзію

■ **Кс. Віктар Місевіч,** тэкст і фота.

**У чацвер 15 снежня Віцебскую дыяцэзію наведаў пасланнік Папы Бэнэдыкта XVI Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці. Адбылося гэта ў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Наваполацку з нагоды дня духоўных сустрэч святароў і манахінь.**



На самым пачатку духавенства Віцебскай дыяцэзіі сабралася ў касцёле, каб праславіць Бога ў Тройцы Адзінага малітвай на брэвярыі. Затым адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту і непасрэдна сама Святая Імша. Цэлебраваў яе арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці.

На пачатку Эўхарыстыі шаноўнага госця прывітаў пастыр дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін. "Ваша Эксцэленцыя, шаноўны арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, шчыра вітае Вас усё духавенства і сёстры законныя Віцебскай дыяцэзіі. Тут працуюць найлепшыя святары і найлепшыя сёстры ў свеце! Мы бязмерна ўдзячныя, што добры Бог паслаў нам такога дарагога госця!", – сказаў біскуп Уладзіслаў.

Святая Імша адпраўлялася на лацінскай мове. Апостальскі Нунцый звярнуўся са словамі гаміліі да прысутных паітальянску. Перакладаў яго сакратар а. Вячаслаў Пялінак MIC.

Пасланнік Папы нагадаў асобу св. Яна Хрысціцеля і заахвоціў святароў да шчырасці перад самім сабой. Ён паразважаў над самотнасцю святара і заклікаў не раздзяляць жыццё на публічнае і прыватнае, стараючыся без раздвоенасці быць верным слугой Бога.

Напрыканцы Святой Імшы арцыбіскуп благаславіў прысутных апостальскім благаслаўленнем. Ён сказаў: "Я сёння благаслаўляю вас ад імя Святога Айца Бэнэдыкта XVI". Арцыбіскуп папрасіў святароў перадаць гэтае благаслаўленне вернікам у парафіях.

Варта дадаць, што асабліва ўзбагацілі дзень духоўных сустрэч браты ў святарстве Грэка-каталіцкай Царквы на чале з Апостальскім Візітатарам архімандрытам Сяргеем Гаекам. Ён у сваю чаргу таксама выступіў і прывітаў Апостальскага Нунцыя.

Пасля абмеркавання арганізацыйных пытанняў пробашч парафіі ксёндз канонік Катэдральнай Капітулы Аляксандр Чайкоўскі запрасіў усіх на пачастунак. Усе мелі магчымасць падзяліцца аплаткам з Нунцыем і біскупам Уладзіславам.

Прыбыццё ў Наваполацк Амбасадара Ватыкана можна параўнаць са з'яўленнем св. Яна Хрысціцеля, чый голас і прысутнасць былі так неабходныя народу Ізраэля. Гэтаксама ў Віцебскай дыяцэзіі неабходны чалавек, які перадае словы і думкі Святога Айца, яднае сваёй асобай партыкулярны Касцёл з Касцёлам Паўсюдным.

Святары і сёстры Віцебскай дыяцэзіі моцна палюбілі арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці. Яны адразу дацанілі яго гумар, жыццярадаснасць і непадробную ўсмешку. Веру, што пасланніка Папы палюбяць і вернікі Віцебскага Касцёла. Тым больш, што ён атрымаў шматлікія запрашэнні не толькі ад біскупа Уладзіслава, але і ад пробашчаў парафій. Арцыбіскуп паабяцаў наведваць паўночную дыяцэзію Беларусі як мага часцей.





# Аплатка ад беларускай моладзі накіруецца па пошце да Святога Айца

Аплатка ад беларускай каталіцкай супольнасці будзе накіравана папу Бэнэдыкту XVI па пошце. Адпраўіцелем стане Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці — ініцыятар гэтага незвычайнага каляднага паслання. Прадстаўнік Святога Айца, які 10 снежня 2011 г. завітаў на моладзевае адвэнтавае чуванне ў мінскую архікатэдру, перадаў прысутным прывітанне ад Пантыфіка і яго благаслаўленне.

Па словах ватыканскага іерарха, кожная маладая асоба — гэта зорка. Разам жа гэтыя «зоркі» складаюць сузор'е, якое з'яўляецца «месцам прабывання Бога». «Таму вы — наследаванне Бога», — звярнуўся іерарх да прысутнай моладзі, якая прыехала з усёй Беларусі.

У звароце да моладзі арцыбіскуп Гуджэроцці адзначыў, што Божае Нараджэнне — гэта свята чалавечай асобы. У сэрцы кожнага чалавека ёсць здымак Бога, які трэба ў сабе адшукаць і паказваць іншым. «Езус нараджаецца ў сэрцы, таму зрабіце яго чыстым», — заклікаў іерарх.

«Езус — гэта святло, якое сыходзіць з небасхіла… Са світаннем прыходзіць Яго нараджэнне», — дадаў Апостальскі нунцый і пажадаў памятаць пра гэта, калі чуванне наблізіцца да завяршэння і прыйдзе світанне.

*Падрыхтавала Валянціна Крутая*

*http://catholic.by*

# У гомельскі жаночы манастыр прыбудуць на пастаяннае знаходжанне часціцы мошчаў чарнігаўскіх святых

У Свята-Ціхвінскі жаночы манастыр (Гомель) 16 снежня прыбудуць на пастаяннае знаходжанне часціцы мошчаў чарнігаўскіх святых: свяціцеля Фядосія, архібіскупа Чарнігаўскага, прападобнага Лаўрэнція Чарнігаўскага і свяціцеля Філарэта, архібіскупа Чарнігаўскага. Святыні будуць даступныя для пакланення вернікаў з 7.00 да 20.00, паведамілі БелаПАН у прэс-службе Гомельскага аблвыканкама.

Мошчы свяціцеля Філарэта, свяціцеля Фядосія і прападобнага Лаўрэнція цяпер знаходзяцца ў Траецкім саборы Чарнігава.

*Алена Германовіч, БелаПАН.*

Паведамленне Пасольства Германіі

# Новая сістэма запісу для падачы заяў на атрыманне віз у Пасольстве Германіі ў Мінску

**З 10 студзеня 2012 г. візавы аддзел Пасольства Германіі ў Мінску пераходзіць на электронную сістэму запісу для падачы заяў на атрыманне віз праз інтэрнэт.**

Для гэтага трэба зайсці на сайт Пасольства ***www. minsk.diplo.de,*** дзе будзе размешчана інфармацыя аб магчымых тэрмінах падачы дакументаў і зарэзерваваць прымальны для Вас дзень і дакладны час наведвання візавага аддзела.



Кёльн.

Новая сістэма ўводзіцца для таго, каб у будучым пазбегнуць вялікіх чэргаў у візавым аддзеле.

**Выключэнні:**

Асобы, якія не маюць доступу да інтэрнэту, могуць пасля 10.01.2012 г. узгадняць час падачы дакументаў па тэлефоне (па аўторках і чацвяргах з 09.00 да 11.00, пры гэтым запіс па тэлефоне абмежаваны і не ажыццяўляецца на больш ранні тэрмін, чым праз інтэрнэт). Групам болей за 5 чалавек просьба запісвацца для падачы дакументаў таксама па тэлефоне.

Запіс па новай сістэме будзе ажыццяўляцца бясплатна. Пры падачы дакументаў, як і раней, спаганяецца толькі збор за апрацоўку заявы, што складае, як правіла, 60 еўра.

*УНН 101166185.*

# Я адчуваю сябе ў форме і патрэбным маёй радзіме

Нядаўна ў нашай газеце быў апублікаваны краязнаўчы матэрыял “Чолгі! Чолгі!” (“ВГ № №47 (607), 24 лістапада 2011 года), які напісаны паводле ўспамінаў Мікалая Конана, жыхара мястэчка Лужкі. Матэрыял прысвечаны падзеям 17 верасня 1939 года і, менавіта, ўваходжанню Чырвонай Арміі ў Глыбокае. Спадар Конан згадаў эпізод, калі малады хлопец стшэлец (стралец) выстраліў з-за царкоўнай агароджы ў савецкага танкіста. Хлопца злавілі і на месцы расстралялі. Імя стшэльца спадар Конан не ведае.

Ёсць такая прымаўка: “На лаўца і звер бяжыць!” Рэдка так бывае, што любая краязнаўчая ці гістарычная тэма не знойдзе далейшага працягу. І гэта, як раз, такі момант!

Завітаў да нас (у газету) і ў Глыбокае спадар Яўген Уладзіміраў з Мінска, сын слыннага ў 1930-ыя гг выдаўца глыбоцкіх паштовак Уладзіміра Уладзімірава. Паразмаўлялі аб тых ці іншых тэмах, якія былі апублікаваныя ў нашай газеце. Згадалі і 1939 год, калі спадару Яўгену было ўсяго 9 гадоў... І ён кажа: “Быў такі стралец Палубінскі, які недзе ў раёне сённяшніх вуліц Крупскай-Вольнай, страляў па савецкіх танках. Забілі яго... А будынак стралецкай арганізацыі стаіць і сёння за базарам, там цяпер – ветлячэбніца. Пры паляках ад будынка да возера спускаліся прыступкі”.

Вось тут загадка! Ці Палубінскі страляў з-за царкоўнае агароджы, ці гэта быў іншы стралец? Можа такіх лакальных пунктаў супраціву было некалькі? Мы пакуль ведаем два: стралялі з-за царкоўнай агароджы і ў Беразвеччы, а спадар Уладзіміраў кажа і аб вуліцы Крупскай (пры паляках – Лончна). Мо, ён штосьці блытае? З-за царкоўнае агароджы страляў, усё ж, Палубінскі?

– Мне ж было ўсяго дзевяць гадоў!– рэзюмуе Яўген Уладзіміраў,– што я магу дакладна сцвярджаць, ведаю толькі, што быў такі Палубінскі...

Палубінскі! Па-польску, напэўна, Połubiński? Калі нехта, недзе, згадваў гэтае прозвішча ў інтэрнэце, то “гэтую рыбіну мы абавязкова вывудзім”!

На адным польскім гмінным сайце мы знайшлі ўспаміны нейкага С. Пашкевіча, ураджэнца Глыбоччыны, які згадвае пра свайго загінулага сябра Палубінскага. Напачатку, пры напісанні гэтае тэмы, мы планавалі змясціць толькі адну цытату, якая датычыць Палубінскага. Але ж аўтар успамінаў – ураджэнец Глыбоччыны, таму, мы мяркуем, яго лёс будзе цікавы нашым чытачам. Успаміны змяшчаем без скарачэнняў.

**Уладзімір Скрабатун**



**Будынак польскай масавай моладзевай патрыятычнай арганізацыі Związek Strzelecki «Strzelec» (у 1939 г налічвала каля 495 000 членаў), аддзел якой існаваў і ў Глыбокім. Будынак захаваўся. Цяпер тут ветлячэбніца.**
*Фота Леанарда Рачыцкага, 1930-ыя гг.*

Я нарадзіўся 10.09. 1922 г у вёсцы Забалоцце Віленскага ваяводства, маю польскае паходжанне. Наш род выводзіцца з дробнай шляхты, мой бацька быў легіянер з 1920 года.

У 1938 годзе я скончыў 7 класаў школы паўшэхнай III вышэйшага ўзроўню ў павятовым горадзе Глыбокае. Пасля заканчэння школы пачаў працаваць наёмным работнікам у геадэзіі. Належаў да арганізацыі баявой падрыхтоўкі стральцоў Юзафа Пілсудскага.

З пачаткам Другой сусветнай вайны, 17 верасня 1939 года, Чырвоная Армія ўвайшла на польскія тэрыторыі. Мы стральцы з ваеннай падрыхтоўкай сталіся пакліканыя да абароны краіны. Падчас аднаго бою, на шляху перасоўвання Чырвонай Арміі ад серы выбухаў снарадаў загінуў мой сябра Палубінскі (Połubiński), з якім мы хацелі падарваць рускі танк – кідалі на яго бутэлькі з бензінам. Я ўцалеў, таму што хутка лёг на зямлю. З батальёнам КАП (Корпуса аховы памежжа) «Berezwecz» памежнікаў адправіўся на абарону Вільні, па дарозе мелі сутычкі з Чырвонай Арміяй, таму з батальёнам «Berezwecz» мусілі адступіць ў Латвію.

Я быў інтэрнаваны ў Дынабургу (Dynaburg – цяпер Даўгаўпілс) з афіцэрамі, якія пасля адлучэння НКУСам ад жаўнераў, былі забітыя ў 1940 годзе ў Катыні. Затым ўвесну 1940 года я вярнуўся з латвійскай Лібавы (Ліепаі) у Глыбокае і ўладкаваўся на працу ў паштовае аддзяленне ў якасці тэлефоннага манцёра.

Калі немцы ў чэрвені 1941 года ўдарылі па Савецкаму Саюзу, то міліцыя прыйшла да майго дому, каб арыштаваць мяне. Меў шчасце, таму, што мой начальнік – тэхнік паслаў мяне з чатырмя манцёрамі пад самы фронт, пад Маладзечна. Мае калегі, якія не змаглі збегчы, былі забітыя рускімі і пахаваныя ў трох ямах па 500 чалавек, так як гэта было ў Катыні. Калі немцы зламалі фронт і ўзялі горад Маладзечна, нас манцёраў прымусілі да выканання падобнай працы, адправіўшы пад савецкі фронт побач з Беразіно, гэта быў раён, дзе ў ходзе кампаніі Напалеона, многія французы (ў 1812 годзе) былі забітыя. Немцы даручылі мне тэлекамунікацыйныя аб'екты ў горадзе Докшыцы.

У гэты час ўстанавіў са мной кантакт Іранэвуш Ігнатовіч – калега са школьнай лавы і прыцягнуў мяне да падпольнай Арміі Краёвай. Там дзейнічалі ад 28. 10. 1942 года да жніўня 1944 года. У ліпені 1944 года другі раз Чырвоная Армія ўвайшлі ў горад Глыбокае, якая падчас вайны нанесла вялікую шкоду касцёлу. Я рызыкаваў сваім жыццём, каб быў арганізаваны рамонт касцёла. Будаўнічыя матэрыялы даставаў на складзе, падкупаючы бальшавікоў гарэлкай і тытунём. Калі я скончыў рамонт храма Антоній Зянкевіч, дэкан, былы капелан у рангу палкоўніка ў арміі Пілсудскага, сказаў мне, што ніхто не дапамог яму так шмат на працягу 20 гадоў, як дапамог яму я, пра што ён і запісаў у парафіяльнай кнізе.

Пасля вайны паехаў у Познань чыгункай, якая шла праз Любін (Lubin). Знайшоў там працу ў паштовым аддзяленні ў галіне тэлекамунікацый.

Потым я вырашыў паехаць на землі адзысканыя, каб знайсці магілу майго малодшага брата Язэпа Пашкевіча, які быў жаўнерам у Войску Польскім і пабудаваў Паморскі Вал, загінуў падчас вайны каля Баруйска (Borujsko). Першапачаткова магіла знаходзілася ў г. Міраславец (Mirosławiec), а затым была перанесеная на Вайсковыя могілкі ў Валч (Wałcz). Пасля адшукання магілы брата, прыбыў 19 сакавіка 1946 г у паселішча Вярхова (Wierzchowo), дзе ўладкаваўся на працу на лесапільні. Узімку 1946 года ў Вярхове быў арганізаваны аддзел пажарнай аховы, які заняўся выдаленнем вялікага пласту снега на даху касцёла, абы не ставіць пад пагрозу бяспеку людзей. У час вайны дах і вежы былі моцна пашкоджаныя. Тады я вырашыў арганізаваць рамонт касцёла, і між іншым, збіраць ў парафіі грошы для ажыццяўлення рамонту. Сабраныя сродкі перадаў Касцёльнаму Камітэту ў рукі св. памяці Стэфану Гумнаму і Ігнацію Трыбуну, якія арганізавалі рамонт касцёла, плацілі будаўнікам, а таксама набывалі будаўнічыя матэрыялы.

Заняўся распаўсюдам каталіцкай прэсы, а менавіта «Pochodnia Safaryjska», «Tygodnik Katolicki», «Posłaniec Serca Jezusowego» і «Rycerz Niepokolanej». У падзяку за садзейнічанне каталіцкай веры атрымаў ад Непакаляновай кнігі «Kołyska i potęga» і « Polska kwitnąca dziećmi». У 50-я гады – змяніў працу, стаў загадчыкам склада збожжа, куды дастаўлялі калектыўнае збожжа.

Была нядзеля, і я адмовіўся працаваць, таму што Пан Бог даў запавет на гары Сінай «Дзень святы святкаваць», пасля чаго быў арыштаваны і прызнаны эканамічным дыверсантам, але мне пашанцавала, што Камітэт Бяспекі не адгукнуўся на абвінавачванне, а так бы ўжо быў мёртвы. Я падвяргаўся пераследу з боку народнай ўлады, так як быў практыкуючым каталіком. Улада не любіла людзей, падобных да мяне, якія ёй працівіліся, бо народная ўлада праследавала каталіцкі Касцёл у Польшчы.

Я не мог знасці любую працу, таму мне даваўся яе шукаць па-за межамі гміны Вярхова. Работа качагара знайшлася ў Гарадскім прадпрыемстве камунальнай гаспадаркі ў г. Злацянец (Złocieniec), дзе адпрацаваў 17 гадоў. У красавіку 1949 года пабраўся сужэнскім шлюбам у касцёле Святога Юзафа ў Свідніцы (Świdnica) са Станіславай Мікула. Выгадавалі і выхавалі разам 7 дзяцей, у нас ёсць 4 сыны і 3 дачкі, і 16 унукаў і 4 праўнукі.

Найбольш важнымі з маіх дасягненняў у жыцці ёсць прыналежнасць у краіне да Польскай Асацыяцыі Камбатантаў з 02.09.1998г, узаконенне перыяду ўдзелу ў Абароннай Вайне ў верасні 1939 г, а таксама залічэнне ад верасня 1939 г і па люты 1940 г знаходжання ў лагеры для ваеннапалонных. У мяне ёсць наступныя адзнакі: у 1999 годзе разам з жонкай Станіславай, Разаліяй Пашкевіч атрымалі медаль за "Шматгадовае шлюбнае жыццё", які быў ўручаны ваяводаю Заходнепаморскім. Разам са сваёй жонкай, рашэннем № 727 міністра нацыянальнай абароны ад 25.10.2002 г, мы былі ўзнагароджаныя срэбным медалём «За заслугі ў абароне краіны», і за адпраўку трох сыноў для праходжання тэрміновай вайсковай службы ў Рэспубліцы Польшча, а затым у дзень 20 чэрвеня 2007 г, калі прэзідэнтам Польшчы я быў прызначаны на званне падпаручыка Войска Польскага, і быў ўганараваны 15 жніўня 2007 г. у Дзень Войска Польскага ў штаб-кватэры Камандавання Вайсковага Укамплектавання ў Шчэцінку.

У цяперашні час маю 85 гадоў*, я чалавек сталага ўзросту з сівымі валасамі, і да гэтага часу хаджу ў касцёл кожны дзень. Таму што Бог назірае за мной і за ўсёй маёй сям'ёй. Я адчуваю сябе ў форме і патрэбным маёй радзіме.

Крыніца: http://www.wierzchowo.pl/osoby

*Пераклад з польскай мовы і тлумачэнні па тэксту Уладзіміра Скрабатуна.*

* Успаміны напісаныя 4 гады таму.



С. Пашкевіч

■ **В.А. Бурэнь,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Рэкамендуем набываць яліны ў месцах іх законных продажаў

**Снежань – апошні месяц года. Ён прыносіць шмат клопатаў, асабліва з набліжэннем Навагодніх святаў. Надышоў час падумаць пра набыццё навагодняй елкі.**

Як і кожны год на тэрыторыі раёна будуць арганізаваныя переднавагоднія елкавыя кірмашы, на якіх і неабходна набываць елкі. Але, нягледзячы на ўсе высілкі лясгасаў забяспечыць грамадзян навагоднімі елкамі па вельмі даступных коштах, знаходзяцца грамадзяне ахвотнікі займець навагоднюю прыгажуню дарма, але, як вядома, «бясплатны сыр толькі ў пастцы».

Паводле пастановы Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2001 года №4, пункт 53: «Нарыхтоўка навагодніх елак ажыццяўляецца»:

■ на адмыслова створаных плантацыях навагодніх елак;

■ пры правядзенні рубак догляду ў лясах з ліку дрэў, якія высякаюцца ў адпаведнасці з лесаводчымі патрабаваннямі;

■ у парадку расчысткі трас, прасек, палос адводу, ліній электраперадач, на пасеках галоўнага карыстання і суцэльных санітарных рубак, калі на дадзеных пасеках падрост не падлягае захаванню».

Грамадзяне самастойна займацца нарыхтоўкай елак не маюць права. За незаконную парубку дрэў паводле арт. 15.22 Ко АП Рэспублікі Беларусь прадугледжваецца адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ад 5 да 50 базавых велічынь, а на індывідуальных прадпрымальнікаў ад 20 да 200 базавых велічынь, таксама парушальнік аплачвае нанесеную шкоду. Пры перавозцы елкі ва ўладальніка пры сабе павінна быць квітанцыя, якая пацвярджае законнасць яе набыцця.

У мэтах прадухілення незаконных парубак елак супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі лясгасаў і міліцыі штодня будуць праводзіцца рэйдавыя мерапрыемствы, затрыманыя за парушэнні грамадзяне прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Каб Ваш настрой, не быў сапсавана ў Навагоднія святы, рэкамендуем набываць елкі ў месцах іх законных продажаў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «гарачая лінія», мабільныя : 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# У заказніку «Ельня» забаранілі паляванне

Згодна з правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання і з мэтай захавання асобных відаў птушак, у тым ліку трапляючых пад дзеянне міжнародных дагавораў РБ, стварэння спрыяльных умоў размнажэння, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя забараніла веснавое паляванне на гуся белалобага, шэрага і гуся-гуменніка, канадскую казарку і крыжанку на тэрыторыі ландшафтнага заказніка "Ельня" да 8 мая.

*http://www.braslav-star.by/*

# Украінскія лесарубы незаконна валяць лес на беларускай тэрыторыі

**З надыходам сезона сокастаяння зафіксаваны выпадак незаконнай валкі лесу на беларускай тэрыторыі і перамяшчэння яго ва Украіну.**

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Беларусі, 15 снежня гомельскім пагранічнікам з Мілашэвіцкага лясніцтва паступіла інфармацыя аб спілоўванні ў начны час недалёка ад мяжы 12 дрэў (8 куб.м). Па гэтым факце былі праінфармаваныя ўкраінскія пагранічнікі. Хутка яны знайшлі на сваёй тэрыторыі шэсць выкрадзеных ствалоў і перадалі іх беларускаму боку.

Праводзяцца мерапрыемствы па ўстанаўленні асоб, якія маюць дачыненне да незаконнай валкі лесу.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Невядомыя кантрабандысты спрабавалі пераправіць цераз Вілію ў Літву з дапамогай GPS-навігатара партыю цыгарэт

**Скарыстаць дасягненні сучаснай тэхнікі паспрабавалі невядомыя кантрабандысты для пераправкі з Беларусі ў Літву партыі цыгарэт.**

Як паведаміў БелаПАН начальнік прэс-службы Смаргонскай пагранічнай групы Аляксандр Колабаў, 14 снежня на ўчастку пагранічнага паста «Кемялішкі» ў Астравецкім раёне каля берага ракі Вілія ў 15 метрах ад дзяржаўнай мяжы пагранічным нарадам былі выяўлены сплаў 12 корабаў цыгарэт (6.000 пачкаў). На адным з корабаў быў прымацаваны GPS-навігатар маркі Tracker. Пра знаходку былі праінфармаваны памежнікі Вільнюскага атрада Службы аховы дзяржаўнай мяжы Літвы. Кошт кантрабанднага грузу ўстанаўліваецца. Асоб, якія маюць дачыненне да правапарушэння, выявіць не ўдалося.

Вечарам 14 снежня на гэтым жа пагранічным пасту ў 30 метрах ад дзяржмяжы пагранічным нарадам з дапамогай партатыўнага цеплавізара «Сыч-2» былі выяўлены, а затым затрыманы тры грамадзяніны Беларусі. У момант затрымання яны перагружалі 27 корабаў цыгарэт (13.500 пачкаў) вытворчасці і з акцызнымі маркамі Рэспублікі Беларусь з легкавога аўтамабіля «Субару» на самаробны плот на Віліі.

Цыгарэты дастаўлены ў аддзел пагранічнай службы «Гудагай». Затрыманымі аказаліся жыхары гарадскога пасёлка Астравец, якія часова не працуюць. Ім выпісаны позвы для далейшага разбору ў аддзел пагранічнай службы «Гудагай».

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Пиротехника таит большую опасность!

■ **А.И. Гигола,**
*начальник отдела охраны правопорядка и профилактики Глубокского РОВД.*

**Пиротехнические вещества: вещества или смеси веществ, предназначенные для производства эффекта в виде тепла, света, звука, газа или дыма или их комбинации в результате самоподдерживающихся экзотермических химических реакций, протекающих без детонации.**

Анализ обстановки в области оборота пиротехнических изделий свидетельствует о резком увеличении их потока в республику в период подготовки и проведения рождественских и новогодних праздников.

Использование пиротехнических изделий, как правило, вызывает негативную реакцию граждан, их обоснованные обращения в различные инстанции о принятии мер к виновным и поддержанию надлежащего общественного порядка, приводит к травматизму, в первую очередь, несовершеннолетних.

Ежегодно находятся граждане, которые в обход закона пытаются осуществить распространение на территории республики пиротехнических изделий сомнительного происхождения.

Осуществляется незаконный ввоз, распространение, и как следствие использование этой пиротехники нашими гражданами, и что самое страшное детьми.

Тревожит факт привлечения к распространению пиротехники несовершеннолетних, которых нелегальные торговцы опасными предметами используют для того, что бы самим уйти от ответственности за нарушение установленных законом правил.

С целью выявления и пресечения фактов незаконной реализации пиротехнических средств, в том числе на рынках и в других общественных местах, а также исключения фактов их использования гражданами органами внутренних дел во взаимодействии с заинтересованными ежегодно проводится комплекс профилактических мероприятий.

В настоящее время за незаконную реализацию, использование и перевозку пиротехнических изделий КоАП Республики Беларусь предусмотрена следующая административная ответственность:

**Статья 23.56.** Нарушение законодательства о пожарной безопасности

**1.** Нарушение законодательства о пожарной безопасности, в том числе обязательных для соблюдения требований технических нормативных правовых актов системы противопожарного нормирования и стандартизации, – влечет предупреждение или наложение штрафа в размере до тридцати базовых величин, а на юридическое лицо – до двухсот базовых величин.

**2.** Нарушение правил пожарной безопасности лицом, ответственным за их выполнение, повлекшее возникновение пожара, – влечет наложение штрафа в размере от тридцати до пятидесяти базовых величин.

**Статья 12.17.** Нарушение правил торговли и оказания услуг населению.

**ч. 1.** Нарушение правил торговли и оказания услуг населению, за исключением совершения нарушений, предусмотренных частью 6 настоящей статьи, – влечет наложение штрафа в размере от двух до десяти базовых величин.

**ч. 4.** Приобретение, хранение, использование в производстве, транспортировка, реализация товаров в нарушение установленного законодательством порядка (без наличия требуемых в предусмотренных законодательством случаях сопроводительных документов, документов, подтверждающих приобретение (поступление) либо отпуск товаров для реализации, или при наличии не соответствующих действительности документов), а также реализация товаров (выполнение работ, оказание услуг) в нарушение запрета органов Комитета государственного контроля Республики Беларусь – влекут наложение штрафа на индивидуального предпринимателя или юридическое лицо в размере от тридцати до пятидесяти базовых величин с конфискацией товаров независимо от того, в чьей собственности они находятся, выручки, полученной от реализации товаров, выполнения работ, оказания услуг, или без конфискации.

**ч.8.** Реализация товаров с рук, лотков, тележек, автомобилей, а также с использованием иных приспособлений в местах, запрещенных законодательством, – влечет предупреждение или наложение штрафа в размере до трех базовых величин.

**Статья 23.48.** Нарушение правил обращения с огнестрельным оружием, взрывоопасными, легковоспламеняющимися, едкими веществами или пиротехническими изделиями.

**1.** Нарушение правил учета, хранения, использования, перевозки или пересылки огнестрельного оружия, боеприпасов, взрывоопасных, легковоспламеняющихся, едких веществ или пиротехнических изделий – влечет предупреждение или наложение штрафа в размере до десяти базовых величин.

**2.** То же деяние, совершенное повторно в течение одного года после наложения административного взыскания за такое же нарушение, – влечет наложение штрафа в размере от десяти до двадцати базовых величин с конфискацией предмета административного правонарушения или без конфискации либо лишение специального права с конфискацией предмета административного правонарушения или без конфискации.

**Статья 18.29.** Нарушение правил безопасности при перевозке опасных грузов и опасных веществ.

**1.** Нарушение правил безопасности при перевозке опасных грузов – влечет наложение штрафа в размере от двадцати до пятидесяти базовых величин.

**2.** Нарушение правил перевозки легковоспламеняющихся, взрывоопасных, отравляющих, ядовитых и иных опасных веществ или предметов, а равно бытовых газовых баллонов железнодорожным, воздушным, водным, автомобильным и иными видами транспорта – влечет наложение штрафа в размере от двух до десяти базовых величин.

**3.** Сдача в багаж или камеру хранения на транспорте общего пользования опасных веществ или предметов – влечет наложение штрафа в размере от шести десятых до пяти базовых величин.

*Окончание на стр. 15*

## МНС інфармуе
**на 19.12.2011 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1289;
Гібель людзей – 190, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 5045,9 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 62;
Гібель людзей – 10, з іх дзяцей няма;
Урон – 573 170 000 руб.

